„NIWA" TYGODNIK BIAŁORUSKI — CENA 60 gr.



# Ніва



№ 7 (51) БЕЛАСТОК, 17 ЛЮТАГА 1957 г. ГОД II

## Дрэнная рэкамендацыя

У апошнім часе польскі друк пачаў цікавіцца беларускімі справамі. З'ява пажаданая і заслугоўвае на ўвагу. Але можа яна прынесці добрыя вынікі толькі тады, калі беларускія справы будуць высветленыя добрасумленна і аб'ектыўна.

Дык добрасумленная інфармацыя — гэта правіла кожнай шануючай сябе рэдакцыі. На добрым імяні не залежыць, відавочна толькі: «Вармії і Мазуры», — ольштынскаму часопісу, калі рэдакцыя гэтага часопіса ў № 3 з 1-ага лютага г. г. змясціла артыкул нейкага Вітальда Остапюка п. з. «Sztuczne podziały», у якім аўтар фальшыва высветліў дзейнасць Беларускага грамадска-культурнага таварыства і рэдакцыі «Нівы» і гэтым самым зрабіў шкоду польскаму грамадству — дэзынфармаваў яго.

Фальшам з'яўляецца сцвярджэнне, што ініцыятыва стварэння БГ-КТ выйшла не ад беларусаў, а ад нейкіх «zupełnie innych środowisk» (якіх — невядома). Як адзін з ініцыятараў стварэння БГ-КТ станоўча гэтаму сцвярджэнню пратэстую, яно не мае пакрыцця ў фактах.

Фальшывым таксама з'яўляецца вывад, што невялікая колькасць членаў (каля 400— лічба высcаная з пальца) сведчыць аб тым, што беларусы не давяраюць свайму Таварыству. Ды няхай-жа будзе ведамым аўтару «Sztucznych podziałów», што Таварыства не йшло на масавасць арганізацыі. На гэта не мелі мы сродкаў, ні арганізатараў, ні часу, не мелі таксама вопыту. Дый ці-ж масавасць арганізацыі сведчыць аб даверы членаў свайму кіраўніцтву?

**Несумненна, кіраўніцтва БГ-КТ мае недахопы, ды гэта яшчэ не сведчыць, аб тым, што яму насельніцтва нашае не давярае.** Няма да гэтага прычын.

Поўным прафанам у беларускіх справах аказаўся Вітальд Остапюк, звальваючы віну на нізкі ўзровень навучання ў беларускіх школах на «інтэлектуальны невысокі ўзровень дзеячоў Таварыства». Тут не толькі абразіў ён гэтых дзеячоў, але выказаў няведанне фактаў. Па-першае, справа навучання ў беларускіх школах не ляжыць у кампетэнцыі Таварыства, а ў кампетэнцыі Міністэрства асветы. Па-другое, дзеячы Таварыства (тыя самыя, на «невысокім інтэлектуальным узроўні») выступілі з ініцыятывай і дабіліся ўтварэння пры Варшаўскім Універсітэце кафедры беларускай філалогіі, не мала палажылі таксама намаганняў у арганізацыі для беларускіх настаўнікаў завочнага аддзялення беларускай філалогіі пры Настаўніцкай студыі ў Беластоку.

Непраўдзівым і крыўдным таксама з'яўляецца сцвярджэнне, што Таварыства абсалютна нічога не робіць у напрамку развіцця нацыянальнай культуры.

А дзейнасць калектыву песні і танца, які паўстаў пры Таварыстве, і які сваімі выездамі ў вёскі і мястэчкі Беласточчыны ўжо заваяваў шырокую папулярнасць? А дзейнасць не менш руплівага і таленавітага хору з Гарадка, які апякуецца БГ-КТ? А выданне для драматычных гурткоў «Паўлінкі» і падрыхтоўка іншага рэпертуару? А стварэнне Выдавецкага камітэта, у якога планах і выдавецтва фальклору і мастацкай, а таксама гістарычнай літаратуры? Гэта што, не дзейнасць? Не туды накіраваліся з сваёй незразумелай і не менш дзіўнай крытыкай, пане Остапюк.

А колькі-ж няпраўды ў вашых натугах ацаніць «Ніву». Папрацавалі вы ў поце чала, нечага й гаварыць, ды гэта-ж і толькі што выпаціны. Дзеліце вы працу рэдакцыі на два этапы, да VIII і пасля VIII Пленума, заяўляючы, што пасля Пленума змяніліся адносіны рэдакцыйнага калектыву да палякаў.

Істоту вашага няўмеснага пасквіля не трудна адгадаць (нягледзячы нават на тое, што мы людзі простыя).

Яна выглядае так: вось яно, гняздо сталінцаў, гайда на іх. Чулі мы ўжо аб гэтым, чулі. Вы трохі спазніліся. І ведамы нам ваш празмерны страх перад міфічным «кімсь», які быццам выкарыстоўвае нас да нячыстых мэт.

Дарэмныя вашы клопаты аб «горкай пігулцы», якою павашаму сталася «Ніва». Пакінце нас у спакою з вашымі высокаінтэлектуальнымі поглядамі на нас. Якась парадзім сабе і без вашай помачы. А калі ваш запал астыне, прагледзьце дакладна «Ніву» (да VIII Пленума і пасля, калі няма ў вас яе, міласці просім, зайдзеце ў рэдакцыю, пазычым). Тады можа зразумееце (калі вы чалавек сумленны), што не мелі рацыі.

Пераканаецеся, што пасля VIII Пленума не кіравалі мы галоўнай увагі, як вы кажаце, на пошукі «груп польскіх нацыяналістаў», а клапаціліся аб дружалюбным сужыцці беларусаў з палякамі, што пасля VIII Пленума далі мы шмат больш матэрыялаў аб традыцыях польска - беларускіх (а гэтаму вы супярэчыце), чым да Пленума. І магчыма, што дойдзеце да вываду, што былі людзі, якія стараліся парозніць адных з другімі, што гэта не былі «ніваўцы», а людзі падобны да вас.

Шкада толькі, што «Вармія і Мазуры», якія маюць амбіцыю ахапіць сваім уплывам Беласточчыну выдрукавалі такую хлусню.

Рэкамендацыі дрэнныя.

ГЕОРГІ ВАЛКАВЫЦКІ



*Цэнтральная частка Гродна. Від зза ракі Гараднічанкі.*

### АЛЕКСАНДР ПРАКОФ'ЕЎ

* * *

Ой, ляціце, думы,
К Беларусі мілай.
Чым яна так сэрца
Мне запаланіла?

Чым запаланіла,
З ёй навек здружыла,
Або, лепей скажам,
Чым прываражыла?

Ці сваёй вяснянкай,
Ці пявучай мовай,
Мілагучным, чыстым,
Неўміручым словам?

Ці сваёй хадою,
Крынічнай вадою,
Ці сваёй красою —
Русаю касою?

Трэллю салаўінай,
Ці гняздом бусліным,
Ветрам тым, што вее
Па шляхах, далінах?

Ці расцвіўшым садам
Майскаю парою,
Ці зялёнай пушчай
Над Нёманам - ракою?

Дык ляціце, думы,
К Беларусі мілай.
Чым яна так сэрца
Мне запаланіла?

Пераклаў з рускай
МАКСІМ ТАНК

ШТОТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

АЛЕСЬ ТРАЯНОЎСКІ

# Творы народнага мастацтва

*Ад родных ніў, ад роднай хаты*
*У панскі двор дзеля красы*
*Яны, бяздольныя, узяты*
*Ткаць залатыя паясы.*

Так пачынаецца цудоўны, поўны пачуцця, лірычнасці і глыбокай асэнсаванасці верш Максіма Багдановіча «Слуцкія ткачыхі».

*І цягам доўгія часіны,*
*Дзявочыя забыўшы сны,*
*Свае шырокія тканіны*
*На лад персідскі ткуць яны...*

Па-мастацку лаканічна і разам з тым яскрава і вобразна паэт падае нам аб гаротным лёсе ткачых занятых цяжкай карпатлівай працай. Што-ж гэта за «шырокія тканіны», аб якіх гаворыць Максім Багдановіч?

Справа ідзе аб шырока вядомых не толькі ў Беларусі, але і за межамі яе, паясах, калісьці выраблёўшыхся ў Слуцку. Слуцк з даўных часоў быў слынным, як адзін з багатых і культурных цэнтраў Беларусі і знаходзіўся сярод квітнеючай і маляўнічай мясцовасці. Нязлярма паэт яркімі фарбамі малюе ў вершы наваколле:

*А за сцяной смяецца поле,*
*Зіяе неба з-за вакна, —*
*І думкі мкнуцца мімаволі*
*Туды, дзе расцвіла вясна.*
*Дзе блішча збожжа ў яснай далі,*
*Сінеюць міла васількі,*
*Халодным срэбрам з'зяюць хвалі.*
*Між гор ліючайся ракі...*

Тут упершыню ў Беларусі быў наладжан выраб цудоўных паясоў, атрымаўшых назву «Слуцкія», якія яшчэ і цяпер захапляюць людзей сваёй прыгажосцю, высокім майстэрствам ткання. Не даводзіцца гаварыць ужо наколькі яны цікавыя, своеасаблівыя і носяць адбітак сапраўднага народнага мастацтва, якое дасягнула надзвычайнага росквіту на Беларусі ў XVIII стагоддзі.

Вырабу гэтых паясоў быў пакладзен пачатак у 1758 годзе, калі ваявода Віленскі князь Міхаіл — Казімір Радзівіл заснаваў у Слуцку спецыяльную фабрыку, як яе называлі тады «персіярню», у якой было ўстаноўлена 25 варштатаў.

Слуцкія паясы ў хуткім часе атрымалі шырокую вядомасць, дзякуючы сваёй высокай тэхніцы майстэрства і прыгожым узорам і зусім выцяснілі з ужытку паясы, якія прывозілі з краін Усходу. Яны сталі неабходнай прыналежнасцю багатага беларускага, украінскага і польскага касцюмаў і не гледзячы на высокі кошт — ад 15 да 150 рублёў золатам, карысталіся вялікім попытам з боку магнатаў і шляхты.

Звычайна слуцкія паясы ткаліся з шаўковых, залатых і сярэбраных нітак, былі двухбаковымі і вельмі доўгімі (3—4 метры) і шырокімі — 30—50 сантыметраў. Па баках яны аздабляліся вузкай каймой, на канцах — багатым, галоўным чынам раслінным, арнаментам, у якіх пакладзена сутнасць мясцовых, народных узораў. Усё астатняе поле звычайна запаўнялася папярэчнымі палоскамі або лускападобным узорам.

Неабходна адзначыць што некаторы час у ўзорах слуцкіх паясоў, асабліва ў першыя гады існавання фабрыкі, знаходзілі месца і ўсходнія арнаментальныя матывы, аднак у далейшым на змену ім прышлі беларускія і ўплыў іх знік.

У пачатку заснавання фабрыкі, ёю кіраваў Ян Мажарскі, а пасля яго смерці — ягоны сын Лявонь, подпіс якога даволі часта сустракаецца на слуцкіх паясах. У фабрыцы паясоў працавалі мясцовыя людзі — прыгонныя сяляне князя Радзівіла і слуцкія мяшчане. Аб гэтым сведчаць і гістарычныя крыніцы, якія падаюць аб тым, што рабочымі фабрыкі былі беларусы, як напрыклад: Кананові ч, Лойка, Сянькевіч, а таксама Барсук, які доўгі час быў галоўным майстрам, і іншыя.

Але росквіт вытворчасці паясоў у майстэрні трываў нядоўга. Пачаўся заняпад, таму што попыт на іх зменшыўся. Адзін час на працягу паўтара дзесятка гадоў выраб іх быў зусім спынен. Зменшыўся лік працуючых у майстэрні, а тыя, што засталіся ў ёй, выраблялі паясы толькі дзеля мэт свайго існавання.

У 1823 годзе фабрыку заарандаваў слуцкі яўрэй Кантаровіч. Але ён не ў стане быў узняць тэхніку вытворчасці тых паясоў, якія выпрабляліся тут у перыяд росквіту майстэрні. Прычынай гэтаму з'яўляліся: недахоп дарагакаштуючых матэрыялаў і адсутнасць кваліфікаваных майстроў.

З цягам часу справы майстэрні не папраўляліся, а занепадалі. У 1828 годзе тут было ўсяго чатыры варштаты з 30 ткацкімі чаўнакамі, а таксама спецыяльны прас для прасавання паясоў. На ўсю майстэрню працаваў толькі адзін майстар і яго памочнік. Аб заняпадзе фабрыкі сведчыць і тое, што за ўвесь 1838 год было выткана ўсяго каля дванаццаці метраў шаўкова - срэбнай тасьмы.

У 1844 годзе фабрыка слуцкіх паясоў была зачынена.

Слуцкія паясы — высокамастацкія вырабы ручнога ткацтва другой паловы XVIII — першай паловы XIX стагоддзяў, адна з старонак гісторыі развіцця выяўленчага мастацтва таленавітага і працавітага беларускага народу. Яны вызначаюцца высокім майстэрствам, глыбінёй своеасаблівасці і адлюстроўваюць сапраўднае мастацтва.

Майстэрні паясоў, падобныя слуцкай, былі заснаваны пасля і ў іншых гарадах і мясцовасцях Беларусі — у Гродні, Нясвіжы, Ражанкаўскім маёнтку (Слонімскі павет, цяпер м. Ражанка, Шчучынскага раёну, Гродзенскай вобласці), а таксама ў Варшаве і Кракаве. Але, нягледзячы на месца іх вытворчасці, за імі замацавалася назва «слуцкія». Іх пераймалі на маскоўскіх і нават на французскіх фабрыках.

Зараз асобныя экземпляры слуцкіх паясоў маюцца ў некаторых музеях СССР, Польшчы і іншых краін.



*Слуцкі пояс (фрагмент).*



*Мінскі цяплічна - парнікові камбінат.*

## Кніга пра трылогію Я. Коласа

Навуковы супрацоўнік Акадэміі навук БССР Ю. Пшыркоў напісаў манаграфію пра трылогію Якуба Коласа «На ростанях». Нядаўна манаграфія выйшла ў свет асобным выданнем у выдавецтве Акадэміі.

Кніга складаецца з 8 раздзелаў і заключэння. Даследчык разглядае ролю Якуба Коласа ў развіцці беларускай мастацкай прозы, дае агляд беларускай прозы пачатку 20-х гадоў, даследуе праблему народа ў трылогіі, разглядае яе станоўчыя і адмоўныя вобразы.

**Вершы маладой паэтэсы**

ЭЎДОКІЯ ЛОСЬ

## Мая малітва

Не чыноўнымі продкі былі —
З веку корпаліся на ніве.
А дарунак быў ад зямлі —
Мазалі на руках па сліве.

Бацька меў шчаслівейшы лёс,
Ды й яго зямлёй прыхавала...
Многа выпала ў долы слёз,
Адгрымела падзей нямала.

Я хаджу па грунце святым,
Скарб пад ім дарагі ўтоен...
Поўню сілы сокам густым,
Што ў жылах зямлі настоен.

Чую — лезе травінка на свет,
Чую — бухае плод у грудзі,
Чую — звон ад калосся плыве,
Чую — пчолка пралеску будзіць...

Бачу — сонца успыхнуў пажар,
Бачу — горад красуе у вёснах,
Бачу — топак іскрыцца жар,
Бачу — шоўк зіхаціць у кроснах

Мне так проста і мець і рабіць,
Мне узрошчаны воля, доля...
Мне-б зямлю толькі гэту любіць
Да крыві, да сардэчнага болю!

## Ох, прыгожы хлопцы на Украіне!

Ох, прыгожы хлопцы на Украіне!
Гляне чорным вокам з-пад брыва,
А брыво дугой над ім ускіне —
І любы супернік — трын-трава...
Хай сабе супернік той сярдуе,
Ці спакойна спіць далёка дзесь, —
Украінец дзеўчыну цалуе
І пяшчотай свецціца ўвесь.
Вось і мне нядаўна ад такога
Доўгі і ласкавы ліст прыйшоў...
Не спытаю, ведама, ні ў кога:
Ці зрабіць, каб болей не знайшоў,
Ці пра зоркі нагадаць начныя
Ды пра топаль, што пад імі рос?..
Ох вы, вочы, бровы выразныя!
Хай не стане вам халодных рос,
Хай для вас цяпло струменіць сонца,
Хай для вашых спраў Дняпро бурліць,
Хай у вашай пекнаце бясконца
Аганёк счаслівы зіхаціць!
Ну, а я, здаецца, паспрабую
Тут спыніць, ля дому, позірк свой,
І такога хлопца аблюбую,
Каб не стаў ніколі трын - травой!

## КАЛЯНДАР Беларускай прыроды

Нядаўна на кніжных прылаўках Мінска з'явілася новая кніга — «Месяц за месяцам» — каляндар беларускай прыроды, складзены для дзяцей і юнакоў адным са старэйшых беларускіх пісьменнікаў, знаўцам прыроды — Віталем Вольскім.

Галоўныя «героі» гэтай кніжкі — ласі, алені, мядзведзі, куніцы, глушцы, гракі, буслы, сумы, шчупакі і іншыя звяры, птушкі і рыбы, што сустракаюцца на тэрыторыі Беларусі. Гэтым «героям» прысвечаны ўсе дванаццаць раздзелаў, якія носяць назвы месяцаў. Задача аўтара і яго заслуга ў тым, што ён упершыню, прытым у папулярнай форме, зрабіў спробу даць чытачу ўяўленне аб беларускай прыродзе ў гадавым каляндарным цыкле.

Праз усю кнігу лейтматывам праходзіць любоў да свае Радзімы, да яе прыроды, краявідаў, незлічоных багаццяў зямлі. Аўтар імкнецца перадаць гэтую любоў і чытачу, заклікае яго берагчы прыродныя багацці бацькаўшчыны, вывучаць іх і спрыяць іх росту.

Добрым дапаўненнем да тэксту «каляндара» з'яўляюцца малюнкі, выкананыя мастаком В. Ціхановічам.

 

# Беларускія песні ў Варшаве

Вельмі прыемна ўвайсці ў памяшканне Варшаўскага Аддзела Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў часе рэпетыцыі хору. Бельмі прыемна пачуць тут беларускія песні. Зусім іншая справа калі гэтыя песні пяюцца на Беласточчыне, дзе іх чуецца на кожным кроку, але таму, хто заўсёды жыве ў Варшаве — гэта вялікае свята. Пакуль што можна іх паслухаць толькі два разы ў тыдзень.

Калі мова аб варшаўскім беларускім хоры — трэба сказаць некалькі слоў аб гісторыі яго паўстання. Пачаў ён арганізавацца тры месяцы таму назад. Арганізацыяй хору заняўся таварыш Мікалай Жлановіч, які прыступіў да працы з вялікай адданасцю, укладваючы вельмі многа энергіі і сэрца.

Зараз хор налічвае 50 удзельнікаў — 28 хлопцаў і 22 дзяўчат. Адчуваецца недахоп жаночых галасоў. Удзельнікі хору — гэта пераважна студэнты вышэйшых навучальных устаноў як: Варшаўскага універсітэта, з беларускай філалогіі і матэматычнага факультэта, студэнты Варшаўскага політэхнікума і СГПіС. Спадзяваны наплыў кандыдатаў з ВАТ-а (Вайсковай акадэміі тэхнічнай). У хоры ёсць таксама польскія дзяўчаты і хлопцы. Прыемна паглядзець, калі беларуская моладзь разам з польскай моладдзю спявае свае беларускія песні. Гэтыя маладыя палякі цэняць беларускую культуру і будучы ўдзельнікамі хору памогуць у яе распаўсюджванні, памогуць азнаёміць польскае насельніцтва з багатым фальклорам беларускага народа.

З мешанага хору незадоўга мае выдзяліцца мужчынская харавая група.

Хор рыхтуе багаты рэпертуар у які ўваходзіць каля 25 песень. Распрацоўваюцца перш за ўсё песні вядомых кампазітараў: Шырмы, Галкоўскага, Тэраўскага, Свешнікава і іншых. У працы сваёй хор апіраецца на народных беларускіх матывах, маючы ў сваім рэпертуары такія перлы народнай беларускай творчасці як: «А ў лузі каліна», «Жыў на свеце Лявон», «А ў полі вярба» і многа іншых.

У выніку адданай працы кіраўніка хору таварыша М. Ждановіча на працягу так кароткага часу хор мог-бы ўжо выступаць публічна, але на перашкодзе стаіць недахоп народных беларускіх убораў.

Беластоцкі Беларускі мастацкі калектыў песні і танца атрымаў грошы на ўборы ад Аддзела Культуры ў Беластоку. Не так даўно гаварылася па радыё ў Беластоку, што гэта грошы выкінутыя ў балота. У практыцы аднак-жа аказваецца, што гэты Мастацкі калектыў дае публічныя выступленні, якія карыстаюцца вялікім поспехам.

Народныя касцюмы — гэта вельмі важная справа. Без касцюмаў варшаўскі хор не можа выступіць публічна. Варшаўскі хор ад свайго паўстання працуе ў вельмі прымітыўных абставінах — без акампанементу. Няма фартэпіяно, ці піяніна, няма акардэона. Пакуль не будзе фартэпіяно ці піяніна не можна таксама прыступіць да працы з балетам. Ёсць кандыдаты ў балет і амаль кожны дзень прыходзяць новыя, толькі праца балету ўстрымана, без акампанементу зразумела, балет не можа рушыць з месца.

Варшаўскі Аддзел БГ-КТ мае цымбалы. Ёсць таксама людзі, якія маглі-бы на іх іграць, але брак піяніна і акардэона.

Пакуль што варшаўскі хор рыхтуе замкнутыя выступленні. Першае выступленне хору запланавана на 23-га лютага ў сувязі з вечарам беларускай паэзіі, а ў канцы лютага хор выступіць пасля дакладу праф. Тарасава на літаратурную тэму.

Радыёстанцыя «Край» згадзілася рэзерваваць для Варшаўскага Аддзела БГ-КТ 28 мінут у месяц на праграму на беларускай мове. У гэтай праграме знойдзе сваё месца таксама варшаўскі беларускі хор. Цэлае шчасце, што гэта не тэлевізія...

Трэба зрабіць усё, што толькі магчыма, каб беларускі хор незадоўга мог выступіць перад насельніцтвам Варшавы. Гэта вельмі важная справа, якую павінна мець на ўвазе Галоўнае Праўленне БГ-КТ.

У Варшаве ёсць яшчэ вельмі многа такіх людзей, якія нічога не ведаюць аб беларусах. Не ведаюць нават, што беларусы жывуць у Польшчы, што толькі каля 5 тысяч беларусаў жыве ў самай Варшаве. Што гэтак ёсць магу падаць прыклад. Гэта не анекдот, а праўдзівая гісторыя, якая здарылася ў Варшаве ў мінулым годзе.

Дзве жанчыны з вёскі, дзе жывуць мае бацькі прыехалі да доктара ў Варшаву. Гэтыя жанчыны не бачылі не толькі Варшавы, але не ведалі нават польскай мовы і звярталіся да сустрэнутых на вуліцы людзей на сваёй роднай мове з запытаннем, дзе ёсць вуліца Очкі, на якой знаходзіцца шпіталь. Здзіўленыя людзі пыталі іх, што гэта за мова, на якой яны гавораць і калі даведаліся, што беларуская — тады спыталіся, хто іх прапусціў цераз граніцу, ці ў Мінску няма шпіталя і ці польскія доктары лепшыя за совецкіх.

Гэты прыклад паказвае нам, што трэба абавязкова паказаць польскаму насельніцтву, што беларусы жывуць не толькі ў Совецкай Беларусі, а што яны жывуць у Польшчы і што яны маюць сваю багатую, векавую культуру.

Вельмі многа могуць зрабіць у гэтай галіне публічныя канцэрты беларускага хору ў Варшаве. Таму трэба зрабіць усё, што толькі магчыма, каб беларускія песні чуліся не толькі ў памяшканні Варшаўскага Аддзела Беларускага грамадска - культурнага таварыства.

ВІКТАР ШВЕД

## „Ой пайду я, выйду!"

Пачатковая школа ў Коматоўцах (Беластоцкі павет) знаходзіцца ў даволі вялікім, светлым будынку, што стаіць на самай ускраіне вёскі. Вучыцца ў ёй каля пяцідзесяці дзяцей.

Упачатку 1956 года па ініцыятыве настаўніцы Алі Дарашкевіч пры школе арганізаваўся мастацкі гурток, які ў сучасны момант налічвае ўжо 25 вучняў і вучнёвак з V, VI і VII класаў.

Быў якраз перапынак, калі я зайшоў у школу. Надвор'е было халоднае — ад поля дзьмуў марозны, вільготны вецер. Моладзь шумнымі гурткамі мітусілася ў класах (у школе вельмі малы калідор). Паступова заглушваючы смехі і размовы плыла мелодыя чароўнай беларускай песні «Ой пайду я, выйду» спяваная тонкімі маладымі галасамі.

Дзеці любяць не толькі спяваць. Яны любяць таксама і дэкламаваць кранаючае беларускае мастацкае слова. Задушэўна дэкламуе вершы Галя Мікуць з IV класа і Тоня Мікуць з II кл.

— Толькі, бачыце, не маем дзіцячага спеўніка. Вось каб дзе-небудзь здабыць дзіцячую п'еску — можна было-б наладзіць нейкую пастаноўку — кажа на развітанне Аля Дарашкевіч.

С. Я.

## Фроська — Змагарка

(Народнае паданне)

Даўно гэта было. Вельмі цяжка тады жылося на нашай вялікай зямлі. Паны ў сялян кроў смакталі, жыць добра не давалі.

Вось жыла - была ў аднаго пана сялянка Агата. Мела яна двух сыноў — кавалёў і дачку Фроську. Прыгожыя былі браты - кавалі, на ўвесь свет сваёй працай славіліся. Ноч і дзень Фроська з маткай і братамі на пана працавалі, славу багатыра яму здабывалі.

Так з года ў год яны гаравалі. Але хутка маці родная Фроські не вытрымала цяжкай працы і дрэннага жыцця. І памерла бедная... Яшчэ горш стала жыць Фроська.

Надышла цёмная ночка. Заснулі слугі панскія. Адчыніла Фроська вялікія дзверы і як сінічка, выляцела з панскага палаца пана-зладзея, пана-разбойніка.

Устаў ранюська пан, адчыніў вялікія дзверы, а там нікога няма. Узлаваўся ён. Загадаў слугам сваім і войску Фроську - прыгожую ў палац, што-б там ністала, вярнуць.

Кінуліся дзікай чарадой падлізы панскія на хату братоў - кавалёў, але не так лёгка прышлося. За Фроську браты - кавалі заступіліся і ўсе сяляне, як адзін чалавек, гарой за яе сталі.

Завязалася барацьба з слугамі панскімі. Біліся, біліся браты-кавалі за сястру родную, адважна змагаліся ўсе сяляне, але ўсё-ж такі сіла большая аказалася на баку паноў.

Пачалі вязаць Фроську, а яна адважна гаворыць, навучае сялян:

Людзі добрыя, залаценькія,
Падніміцеся, даражэнькія,
Ды зазьміце вы зброю вострую,
Ды паўстаньце сілай грознаю!

Вязалі Фроську, у ланцугі яе закавалі, а яна людзям праўду казала, свет ім адкрывала. Фроську кінулі ў цямніцу. Пан ад радасці аж заскакаў, што перамогу такую атрымаў. Назначыў ён з вялікай радасці баль. Заззялі палацы панскія агнём яркім.

Ды Фроська-Змагарка ўцякла з цямніцы. Паслаў пан пагоню, але нідзе не знайшлі Фроські - Змагаркі. Уцякла яна ў лес.

Выбралі сяляне Фроську - Змагарку сваім атаманам. Дзе яна з баявой дружынай праходзіла, дзе балоты і пустыні былі, там сады зацвілі, радасць па тым месцы хадзіла.

Вось якой заступніцай за народ была Фроська - Змагарка.

*Запісаў ад свайго бацькі і прыслаў*

ПЕЦЯ ІВАНЮК
вёска Плёскі
вучань IV класа

## Паўстаў універсітэт эстэтычнага выхавання

Дзяржаўны Культурна-асветны ліцэй у Супраслі і Ваяводскае Праўленне Таварыства па распаўсюджванні навуковых ведаў (ТВШ) у Беластоку, арганізавалі ў Супраслі (каля Беластоку) першы ў Польшчы Усеагульны Універсітэт эстэтычнага выхавання.

Мэтай Універсітэту з'яўляецца разбуджэнне зацікаўленасці культурай і павышэнне культурнага ўзроўню асяроддзя.

Дагэтуль ва Універсітэт запісалася 230 асоб.

БАЛЕСЛАЎ МАНКЕВІЧ

# Гутаркі аб мове

## Гутарка 12

З прыкладаў скланення, прыведзеных у гутарцы 11, відаць, што некаторыя назоўнікі ў родным склоне множнага ліку могуць мець форму чыстай асновы і форму з канчаткам *-аў: веж і вежаў, пушч і пушчаў, меж і межаў*, а некаторыя ўжываюцца толькі з канчаткам *-аў: брытваў, мётлаў* і інш.

Цяпер разгледзім скланенне назоўнікаў з асновай на мяккі зычны.

АДЗІНОЧНЫ ЛІК

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. | вішн-я | зямл-я | хвал-я |
| Р. | вішн-і | зямл-і | хвал-і |
| Д. | вішн-і | зямл-і | хвал-і |
| В. | вішн-ю | зямл-ю | хвал-ю |
| Т. | вішн-яй (яю) | зямл-ёй (ёю) | хвал-яй (яю) |
| М. аб | вішн-і | зямл-і | хвал-і |

МНОЖНЫ ЛІК

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. | вішн-і | земл-і | хвал-і |
| Р. | вішань | зямель | хваль |
| | вішн-яў | земл-яў | хвал-яў |
| Д. | вішн-ям | земл-ям | хвал-ям |
| В. | вішн-і | земл-і | хвал-і |
| Т. | вішн-ямі | земл-ямі | хвал-ямі |
| М. аб | вішн-ях | земл-ях | хвал-ях |

Родны склон множнага ліку мае ў гэтай групе назоўнікаў дзве формы: без канчатка і з канчаткам *-аў (-яў)*. Часцей ужываецца форма без канчатка.

Назоўнікі першага скланення з асновай на *й* (гэту літару называюць таксама ётам) скланяюцца наступным чынам:

АДЗІНОЧНЫ ЛІК

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. | жня-я | армі-я | станцы-я |
| Р. | жня-і | армі-і | станцы-і |
| Д. | жня-і | армі-і | станцы-і |
| В. | жня-ю | армі-ю | станцы-ю |
| Т. | жня-ёй (ёю) | армі-яй (яю) | станцы-яй (яю) |
| М. аб | жня-і | армі і | станцы-і |

МНОЖНЫ ЛІК

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. | жне-і | армі-і | станцы-і |
| Р. | жней | армій | станцый |
| Д. | жне-ям | армія-м | станцы-ям |
| В. | жней | армі-і | станцы-і |
| Т. | жне-ямі | армія-мі | станцы-ямі |
| М. аб | жне-ях | армі-ях | станцы-ях |

Нарэшце праскланяем некалькі назоўнікаў з асновай на г, к, х.

АДЗІНОЧНЫ ЛІК

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. | дарог-а | рак-а | страх-а |
| Р. | даро-гі | рак-і | страх-і |
| Д. | дароз-е | рац-э | страс-е |
| В. | дарог-у | рак-у | страх-у |
| Т. | дарог-ай (аю) | рак-ой (ою) | страх-ой (ою) |
| М. аб | дароз-е | рац-э | страс-е |

МНОЖНЫ ЛІК

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. | дарог-і | рэк-і | стрэх-і |
| Р. | дарог | рэк | стрэх |
| Д. | дарог-ам | рэк-ам | стрэх-ам |
| В. | дарог-і | рэк-і | стрэх-і |
| Т. | дарог-амі | рэк-амі | стрэх-амі |
| М. аб | дарог-ах | рэк-ах | стрэх-ах |

У апошняй групе назоўнікаў I скланення ў адзіночным ліку мы назіраем чаргаванне гукаў у аснове: у давальным і месным склонах *г* пераходзіць у *з* (мяккае), *к* — у *ц* (цвёрдае) і *х* — у *с* (мяккае). Мы атрымліваем формы: *дарозе, рацэ, страсе*, прычым пасля *ц* пад націскам будзе канчатак *-э*, а не пад націскам — канчатак *-ы*, напрыклад, *рука — руцэ, кладка — кладцы, чыгунка — чыгунцы*.

ПРАКТЫКАВАННІ.

1. Праскланяйце у адзіночным і множным ліку назоўнікі: дачка, рука, бляха, нага, пальма.

2. Наступныя назоўнікі пастаўце ў родным склоне множнага ліку: сястра, майстэрня, мова, капальня, мятла, лялька, лінейка, жняярка, карова, курыца.



 

